# наша свабода

№12(239) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

1 ЛЮТАГА 2002 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


## Каменьчык за 200 000 даляраў

Супрацоўнікі праваахоўных органаў прадухілілі спробу незаконнай здзелкі з каштоўным каменем вагою 900 каратаў (1 карат = 0,2 грама).

Як паведамілі БелаПАНу ва управленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, міліцыі стала вядома аб тым, што група маладых людзей спрабуе збыць неапрацаваны смарагд вялікіх памераў. Паводле аператыўнай інфармацыі, ён быў дастаўлены ў Беларусь з Узбекістану. Потым удалося ўстанавіць прадаўцоў, пакупніка, суму і месца здзелкі.

28 студзеня ў Мінску, на аўтастаянцы каля гасцініцы «Беларусь», аператыўнікі сумесна з байцамі спецыяльнага падраздзялення па барацьбе з тэрарызмам «Алмаз» затрымалі пяцёх удзельнікаў здзелкі – усе яны былі жыхарамі беларускай сталіцы. У іх канфіскаваны смарагд-самародак вагою 900 каратаў, два аналагічныя камені па 15 каратаў кожны і 200 тысяч даляраў.

Па гэтым факце Следчым камітэтам МУС узбуджана крымінальная справа па частцы 3 артыкулу 223 «Парушэнне правілаў аб здзелках з каштоўнымі металамі і камянямі, учыненае арганізаванай групай або ў асабліва буйным памеры».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## Амерыка чакае новых атакаў

Амерыканская разведка распаўсюдзіла папярэджанне пра тое, што ісламскія тэрарысты збіраюцца ў бліжэйшым часе здзейсніць дэманстратыўны тэрарыстычны акт накшталт атакі 11 верасня, паведамляе *The Washington Times*. У падрабязнай перасцярозе удакладняюцца патэнцыйныя мэты новых нападаў. Аднымі з найбольш верагодных станоць атамныя электрастанцыі і іншыя прадпрыемствы, якія ўваходзяць у структуру дэпартаменту энергетыкі ЗША. Прэзідэнт ЗША Джордж Буш пацвердзіў у сваім звароце да Кангрэсу, што яму вядомыя канкрэтныя планы нападу нейкіх тэрарыстычных групаў на атамныя аб'екты і прадпрыемствы жыццезабеспячэння.

**Lenta.ru**

# Бясплатная медыцына канае...


Фота IREX/ProMedia

*Прызначаючы напрыканцы мінулага году цяперашняга міністра аховы здароўя Уладзіслава Астапенку, Аляксандр Лукашэнка даручыў, каб 30% медычных паслуг сталі бліжэйшым часам платнымі. Майляў, якую тысячу рублёў на доктара кожны знойдзе. І міністэрства аховы здароўя зрабіла першы крок у гэтым кірунку.*

Днямі яно ўнесла прапанову ва ўрад аб пашырэнні пераліку платных паслугаў, якія аказваюць медычныя ўстановы краіны. Паводле начальніка ўпраўлення лячэбна-прафілактычнай работы міністэрства аховы здароўя Аляксандра Цыбіна, пакуль што Савет міністраў адмысловага Палажэння аб платных паслугах не зацвердзіў, і казаць пра тое, якія дакладна паслугі стануць платнымі, яшчэ зарана. Пра змест некаторых пунктаў гэтага Палажэння, якія пэўна будуць прынятыя, нам удалося даведацца. Па планах міністэрства аховы здароўя за талончыкі да доктара ў паліклініках хоць і няшмат, але прыйдзецца плаціць. Прапануецца таксама браць аплату за абсалютна ўсе стаматалагічныя паслугі, а таксама за частку дыягнастычных аналізаў.

Асноўныя сацыяльна значныя медычныя паслугі, такія, як лячэнне сухотаў ці ракавых захворванняў, застануцца дармовымі, а за экстранны выклік брыгады хуткай дапамогі давядзецца плаціць пакуль што толькі гасцям Беларусі з далёкага замежжа. Бясплатнымі застануцца хірургічныя аперацыі, асноўныя лячэбныя працэдуры.

Зараз прапановы міністэрства аховы здароўя знаходзяцца на стадыі ўзгаднення з аблвыканкамамі, міністэрствам юстыцыі. Зацвярджэння Палажэння аб платных паслугах ва ўрадзе варта чакаць праз месяц-два. На думку Аляксандра Цыбіна, Саўмін пойдзе насустрач міністэрству аховы здароўя і падтрымае большасць ягоных прапановаў. Інакш існуючага ў медыцыне заняпаду не выправіць.

Плату за некаторыя паслугі медычным установам дазволілі браць у 1996 годзе. Аднак гэтым правам дагэтуль шырока не карыстаюцца ні насельніцтва, ні самыя медыкі. Кошты на платныя паслугі не адпавядаюць затратам на іх з боку доктара. Да таго ж дзейнічае звычайная ўраўнілаўка. Напрыклад, за кансультацыю прафесара і сельскага доктара трэба заплаціць адны і тыя ж 1 200 рублёў, а сам медык з іх атрымае, можа, рублёў 100. Астатнія ідуць у "агульную скарбонку" ўстановы. Таму і атрымліваецца сітуацыя, калі, выкладаючы свае грошы, пацыент бачыць у вачах доктара тую ж абыякавасць, што і падчас бясплатных наведванняў.

*Заканчэнне на стар.3*




## Патрушаў ухіліўся ад адказу

### *Кіраўнік расійскай ФСБ нешта ведае пра беларускія пастаўкі зброі?*

На прэс-канферэнцыі 29 студзеня па выніках супольнага паседжання кіраўнікоў праваахоўных органаў дзяржаў Садружнасці, якое прайшло ў Мінску, старшыня Савету кіраўнікоў органаў бяспекі і спецслужбаў, дырэктар Федэральнай службы бяспекі Расіі Мікалай Патрушаў ухіліўся ад прамога адказу на пытанне ці маюць праваахоўныя органы краін СНД інфармацыю аб магчымых пастаўках Беларуссю зброі экстрэмісцкім групоўкам. На працягу апошняга году абвінавачанні ў гэтым рэгулярна трапляюцца ў замежнай прэсе. Апошняя публікацыя такога кшталту была на пачатку студзеня ў газеце *The Washington Post*. У артыкуле пад назвай «Еўрапейскі арсенал для тэрарызму» адзначалася, што сярод атрымальнікаў беларускай зброі былі тэрарысты і радыкальныя арганізацыі на Блізкім Усходзе, Балканах і ў Сярэдняй Азіі. «Многія з Лукашэнкавых здзелак са зброяй маюць агульную схему, — гаварылася ў артыкуле. — Зброя, якая дасылаецца з Беларусі, мінае вызначаную краіну-атрымальніка і трапляе да ісламскай экстрэмісцкай групоўкі або ў краіну, якая знаходзіцца пад эмбарга ААН на пастаўкі зброі, а беларускія афіцыйныя асобы заплюшчваюць вочы на такія аперацыі».

«У рамках Савету кіраўнікоў органаў бяспекі і спецслужбаў пытанне аб фінансаванні міжнароднага тэрарызму, а якраз такія дзейнні і адбываюцца ў Чачэнскай Рэспубліцы, мы разглядаем практычна на кожным паседжанні, — сказаў М. Патрушаў. — І разглядаем варыянты, як адбываецца фінансаванне і як паступае ўзбраенне туды. Інфармацыі аб тым, што туды паступала ўзбраенне, у нас не было, мы гэтыя пытанні не разглядалі».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## ВЕСТКІ


Фота Ул. ШЛАПАКА

### Гаротныя калгасы і саўгасы

Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання паведаміла, што 2001 год са стратамі завяршылі 1 403 сельскагаспадарчыя прадпрыемствы нашай краіны. Гэта 58,9% ад іх агульнай колькасці. Рэнтабельнасць калгасаў і саўгасаў знізілася агулам на 6,1%.

### Выкрыванне падробак

Летась мінская міліцыя выкрыла 475 выпадкаў збыту фальшывых грошай. Вынята 114 тысяч даляраў і 1 800 нямецкіх марак. Сёлета сталічныя праваахоўнікі рыхтуюцца пільнаваць падробныя еўра.

### Бязлітасны рак

Штодня беларускія лекары выяўляюць каля 90 хворых на рак.Такія звесткі паведаміў дырэктар Навукова-даследчага інстытуту анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Іосіф Залуцкі. Усяго летась у нашай краіне было выяўлена 33 тысячы анкахворых. Паводле прагнозаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, у найбліжэйшыя 20 гадоў на першым месцы ў свеце сярод прычынаў смяротнасці апынуцца анкалагічныя захворванні, апярэдзіўшы сардэчна-сасудзістыя.

### Вяшчанне Першага музычнага каналу незаконнае

Як заявіў міністр інфармацыі Беларусі Міхаіл Падгайны, вяшчанне Першага музычнага каналу на частаце, на якой працаваў закрыты расійскі тэлеканал ТВ-6, – незаконнае. Але міністэрства інфармацыі пакуль заплюшчвае на гэта вочы, бо, маўляў, «музыкалка» ўсё ж лепей, чым «пусты экран».

### Прафсаюзная салідарнасць

Федэрацыя незалежных прафсаюзаў Расіі збіраецца правесці пікетаванне беларускага пасольства ў Маскве ў знак пратэсту супраць парушэнняў правоў беларускіх прафсаюзаў.

### НДІ Узброеных сілаў

Да і чэрвеня планууецца стварыць Навукова-даследчы інстытут Узброеных сілаў Беларусі. Арганізаваны ён будзе на базе ваенна-навуковага цэнтру Ваеннай акадэміі.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1685**




## Беларускі ўрад занадта аптымістычны

Перамовы аб новай эканамічнай праграме для Беларусі, якую падтрымаў бы Міжнародны валютны фонд (МВФ), могуць пачацца толькі ў тым выпадку, калі беларускі ўрад перагледзіць некаторыя прагнозныя паказчыкі на 2002 год. Аб гэтым заявіў БелаПАНу 29 студзеня пастаянны прадстаўнік МВФ у Літве і Беларусі Марк Хортан. Хортан выказаў спадзяванне, што ўрад Беларусі можа змяніць свае планы пасля нарады ў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі 12 лютага, дзе маюць абмяркоўвацца вынікі 2001 году ў эканоміцы.

Летась беларускі ўрад не здолеў паспяхова ажыццявіць шасцімесячную эканамічную праграму пад назіраннем экспертаў фонду, што было неабходнай умовай для пачатку перамоваў аб крэдыце «стэнд-бай». Асноўныя праблемы былі звязаныя з выкананнем бюджэтных паказчыкаў. На думку экспертаў МВФ, гэта было выклікана павышэннем заробкаў, якое не грунтавалася на адпаведным павелічэнні прадукцыйнасці працы. Ацэнкі экспертаў пацвердзіла паседжанне Савету дырэктараў МВФ 23 студзеня ў Вашынгтоне, дзе разглядаліся вынікі супрацоўніцтва з Беларуссю ў 2001 годзе.

Падчас перамоваў напрыканцы мінулага году прадстаўнікі МВФ і беларускага ўраду не знайшлі паразумення па шэрагу важных пунктаў урадавай эканамічнай праграмы на 2002 год. У прыватнасці, эксперты фонду лічаць занадта аптымістычнымі запланаваныя ўрадам рост валавога ўнутранага прадукту і зарплаты.

Акрамя таго, МВФ непакоіць адсутнасць «яснай і канкрэтнай праграмы» прыватызацыі, сказаў Хортан. Паводле ягоных словаў, запланаваныя беларускім урадам на 2002 год прыбыткі ад прыватызацыі адносна невялікія, але прагнозныя лічбы не падмацаваны канкрэтнымі планамі.

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ**

## Выпілі, але не заплацілі

На далейшы рост спажывання гарэлкі, віна і слабаалкагольных напояў разлічаныя планавыя паказчыкі прыбытковай часткі бюджэту Брэсцкай вобласці на 2002 год. Віннагарэлачная галіна, бадай, адзіная ў рэгіёне, вытворчасці якой не перашкодзяць ні горшая дэмаграфічная сітуацыя, ні рост беспрацоўя, ні канкурэнцыя з падпольнымі бровармі на кватэрах і ў пушчанскіх лясах. Акцызны падатак, які ў поўнай суме спаганяецца ў мясцовы бюджэт, павінен дасягнуць 17,9 мільярда рублёў. Ну, а паколькі за выпіўку людзі плацяць кроўныя грошы, то гэтым самым пакрываюць выдаткі дзяржавы на сацыяльныя праграмы. Прыкладам, на ўтрыманне ўсіх установаў культуры ў вобласці, арганізацыю мастацкай самадзейнасці і зарплату культработнікаў сёлета выдаткоўваецца 11,7 мільярда рублёў.

Адпаведна падвышанай праграме рэалізацыі спіртовых напояў узмацняецца адміністрацыйны ціск на пашырэнне іх вытворчасці. На асаблівым кантролі «вертыкалі» зараз спіртзавод «Бродніцкі», саўгасы «Пескі» і «Манькавічы», дзе не выканалі зададзеняў мінулага году па аб'ёмах выпуску акцызнага разліўнога прадукту. Праблемы на «крывой сцежцы» адурманьвання насельніцтва мае і вясковы гандаль аблспажыўсаюзу. За тое, што ён не вяртае Брэсцкаму лікёра-гарэлачнаму заводу 720 мільёнаў рублёў за ўжо прададзеную «беленькую», прадпрыемстваманапаліст адмаўляецца папаўняць магазінныя запасы самага хадавога тавару.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Беларусы ўсё менш лістуюцца праз інтэрнэт

У 2001 годзе жыхары Беларусі ўдвая менш карысталіся электроннай поштай у параўнанні з папярэднім годам. Па звестках міністэрства статыстыкі і аналізу, за год перададзена 779,9 тыс. паведамленняў электроннай пошты, што складае 46% да ўзроўню 2000 году. У 2000 годзе, у параўнанні з 1999 годам, колькасць зваротаў, перададзеных па электроннай пошце, знізілася на 14,1%. Такім чынам, за два гады колькасць электронных паведамленняў скарацілася ў 2,53 раза.

У той жа час працягвае расці час працы беларускіх грамадзян у сусветнай сетцы «Інтэрнэт». За мінулы год ён павялічыўся на 62,4% і склаў 115,7 млн. хвілін. З 1999 па 2001 гады час працы ў інтэрнэце ўзрос у 1,86 раза.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## Прыйшоў час адключаць

Віцебскія энергетыкі, як і абяцалі перад Новым годам, пачалі адключаць падачу электраэнергіі на прадпрыемствы, якія за яе не разлічваюцца.

На раніцу 30 студзеня па Віцебскай вобласці была спыненая падача энергіі на 44 прадпрыемствы, 79 прадпрыемстваў атрымліваюць электрасілкаванне да ўзроўню аварыйнага стану, гэта значыць да мінімуму, які забяспечвае захаванасць персаналу, сыравіны і абсталявання. Яшчэ 836 прадпрыемстваў вобласці атрымліваюць зменшаную да рознага ўзроўню колькасць энергіі. Такое становішча для тых, хто не заплаціць за энергію, будзе цягнуцца да той пары, пакуль яны не заплацяць або за іх не паручацца вышэйшыя структуры. Паводле словаў намесніка генеральнага дырэктара аб'яднання «Віцебскэнерга» Аркадзя Казлоўскага, агульная лічба запазычанасці за электраэнергію па Віцебскай вобласці дасягае ста адзінаццаці мільярдаў рублёў.

Найбольш запазычыліся – на больш як 5 мільярдаў – вытворчыя аб'яднанні «Палімір» і «Даламіт», тры з паловай мільярды рублёў вінен «Нафтан», шмат прадпрыемстваў маюць больш за мільярд доўгу.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

## Звярнуўся па дапамогу — давай адбіткі пальцаў

*Ідучы з крамы дамоў, слесар вытворчага аб'яднання «Рэчыцадрэў» Ігар Забіран нечакана сутыкнуўся з вячэрнімі вымагальнікамі.*

— Пазыч нам капеечку! — настойліва прасіў падлетак, за якім назіралі двое старэйшых.

Доўга не раздумваючы, Ігар Забіран схапіў хлопца за руку і падвёў да міліцэйскага патруля. Маўляў, так і так, разбярыцеся з юным ліхвяром.

Аднак старшы сяржант міліцыі І.Несцярэнка (ён узначальваў патруль) стаў разбірацца не з вымагальнікамі, а з рабочым.

У дзяжурцы Рэчыцкага гаррайаддзелу міліцыі, дзе былі і афіцэры, Несцярэнка ўчыніў рабочаму дагляд. Пакуль корпаўся з авоськай, у якой былі прадукты, разбіў паўдзесятка яек і рассыпаў цукар. Урэшце склаў на Забірана пратакол. Указаў, што ў затрыманага «быў пах з рота, чым прыніжаў чалавечую годнасць».

Ігар Забіран запратэставаў. Міліцыянеры адвезлі рабочага ў бальніцу на медыцынскі агляд. Двойчы рабочы дзьмухаў у трубку Рапапорта, але рэактыў не сінеў – не паказваў наяўнасці алкаголю.

Ахоўнікі прапанавалі медыкам узяць у Забірана на аналіз кроў, але рабочы катэгарычна адмовіўся. Тады міліцыянты завезлі Ігара Забірана назад у аддзел, дзе пад прымусам узялі ...адбіткі пальцаў.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

## «Салодкая» пасада земляку і «цяжкая» – экс-міністру

Імклівую службовую кар'еру на новым месцы жыхарства зрабіў цяперашні берасцеец Анатоль Туронак. Маючы блізкае знаёмства са старшынёй Брэсцкага аблвыканкаму Васілём Далгалёвым яшчэ па роднай для абодвух Гомельскай вобласці, зямляк быў запрошаны на пасаду галоўнага саветніка кіраўніка брэсцкай абласной «вертыкалі», а 21 студзеня атрымаў прызначэнне на пасаду генеральнага дырэктара ААТ «Жабінкаўскі цукровы завод». Ягоны папярэднік на гэтай пасадзе Генадзь Вялько вызвалены згодна з асабістай заявай, але заўчасна, да завяршэння тэрміну кантракту. Вялько, дарэчы, адпрацаваў 30 гадоў, мае прафесійную рэпутацыю «цукровага караля» і пакінуў пераемніку самую прадукцыйную зараз вытворчасць у Беларусі з гадавым аб'ёмам выпуску 180 тысячаў тонаў салодкага прадукту.

І яшчэ адзін уладальнік персанальнага кантракту на дырэктарства да канца 2002 году мусіў саступіць сваё крэсла іншаму. Звольнены кіраўнік саўгасу-камбінату «Белавежскі» Уладзімір Макарэвіч. І ўжо 29 студзеня справы ад яго пераняў Юрый Мароз, экс-міністр сельскай гаспадаркі, чыя скандальна наўдалая спроба асабіста ачоліць прафсаюз беларускіх аграрыяў у 1999 годзе, мажліва, яшчэ не забылася.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## Рэкі яшчэ спакойныя

Адліга, што апошнім часам ахапіла Беларусь, пакуль істотна не адбілася на ўзроўні вады ў нашых рэках, якія на сённяшні дзень (нават на Прыпяці і Гарыні) пераважна застаецца стабільным. Нягледзячы на натуральнае пры такім надвор'і павышэнне ўзроўню вады ў рэках, на ніводнай з іх ён не дасягнуў небяспечнай мяжы.

Сутачная інтэнсіўнасць пад'ёму вады ў 20-х чыслах склала ад 1 да 10 сантыметраў. За апошнія дні інтэнсіўнасць пад'ёму павялічылася, і зараз на некаторых рэках вада падымаецца ў сярэднім на 30 сантыметраў. Максімальны пад'ём за мінулыя суткі — 105 сантыметраў — быў зафіксаваны на рацэ Дзісне ля гарадскога пасёлку Шаркоўшчына (Віцебская вобласць). У найбліжэйшыя дні ўскрыццё лёду і павышэнне ўзроўню вады на рэках будуць працягвацца.

У першых чыслах лютага чакаецца выхад вады на пойму Бярэзіны непадалёк ад Беразіна (Мінская вобласць), Сажа каля Слаўгараду (Магілёўская вобласць), асобных участкаў Гарыні, Піны, Убарці, Віліі і Шчары. Дзве апошнія ракі за мінулыя суткі цалкам ачысціліся ад лёду. Яшчэ раней сышоў лёд з Свіслачы і Ясельды. Трывалае лядовае покрыва яшчэ захоўваецца на Мінскім моры, Нарачы, Вілейскім і Чыгірынскім вадасховішчах.

У поўнай гатоўнасці да ліквідацыі магчымых наступстваў паводкі знаходзяцца падраздзяленні міністэрства па надзвычайных сітуацыях Беларусі. Як заяўляюць у міністэрстве, у выпадку выхаду вады ў рэках за небяспечны ўзровень і падтаплення некаторых падвор'яў і жылых збудаванняў неабходная дапамога насельніцтву будзе аказана своечасова і ў поўным аб'ёме.

Сітуацыя, якая склалася ў 1999 годзе, калі сотні беларускіх населеных пунктаў былі падтопленыя, сёння выключаецца, кажуць у МНС.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

## Расійскі газ патаннеў для Беларусі

Кошт экспартаванага з Расіі ў Беларусь газу будзе зніжаны на 38% і складзе 18,6 даляра за 1 000 кубаметраў замест 30 даляраў. Як паведаміў прэм'ерміністр Беларусі Генадзь Навіцкі, да апошняга часу расійскі бок не збіраўся рабіць скідку, бо ў такім выпадку ён страчваў бы каля 150 млн. даляраў у год.

Але маскоўскім экспертам нагадалі, што кошт транзіту газу па тэрыторыі Украіны ў чатыры разы вышэйшы за беларускі. У выпадку павышэння тарыфу да ўзроўню паўднёвых суседзяў Беларусі страты «Газпраму» склалі б тыя ж самыя 100-150 млн. даляраў. На гэтым тыдні праект дамовы будзе дапрацаваны і адпраўлены ў Мінск, яго падпісанне магчымае ўжо ў сярэдзіне лютага.

**Barcnews**

## Вецер-разбуральнік



Фота IREX/ProMedia

Агульная колькасць паселішчаў, якія пацярпелі ў Беларусі ад шквалістага ветру, паводле ўдакладненых звестак, перавысіла 1 090. Больш за палову іх знаходзіца на тэрыторыі Мінскай і Гродзенскай абласцей.

Стыхія разбурыла 10 сельскагаспадарчых будынкаў і 4 фермы, а таксама жылы дом у адной з вёсак Мінскай вобласці. 300 прыватных жылых дамоў пашкоджаныя, сарваны шыферныя дахі з 855 сельгасбудынкаў, 73 вытворчых памяшканняў. Пашкоджана амаль 400 кіламетраў ліній электраперадач, 19 аўтаматычных тэлефонных станцый, з іх пераважная большасць (16) — у Мінскай вобласці.

Увогуле ў краіне было абясточана амаль 900 вёсак, 18 бальніц, 45 дашкольных установаў, 68 школ. Да сярэдзіны сённяшняга дня энергазабеспячэнне было аднаўлена ў 600 населеных пунктах, 17 бальніцах, большасці школ і дзіцячых садкоў. Пра маштабы здарэння кажа той факт, што для ліквідацыі разбурэнняў ад моцнага ветру ў першыя суткі было задзейнічана 628 адзінак спецыяльнай тэхнікі і каля 2,5 тысяч спецыялістаў і рабочых.

Таксама сталі вядомыя звесткі пра патрэбу ў будаўнічых матэрыялах, неабходных для ліквідацыі пашкоджанняў. Так, шыферу неабходна больш за 80 тысяч лістоў, рубероіду — 46 тысяч квадратных метраў, а патрэба ў лесаматэрыялах складае 900 кубаметраў.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

# Ханс-Георг Вік:

*На мінулым тыдні былому кіраўніку Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску амбасадару Хансу-Георгу Віку было адмоўлена ў візе на ўезд у Беларусь. МЗС патлумачыла гэта тым, што «Ханс-Георг Вік страціў давер».*

Праца спадара Віка на пасадзе кіраўніка місіі выклікала неадназначную рэакцыю ў Беларусі. Афіцыйныя ўлады абвінавачвалі Віка ў разбуральнай дзейнасці, прадстаўнікі апазіцыі – у тым, што місія і Вік робяць усё дзеля легітымізацыі ўладаў. Былі і такія ацэнкі: Ханс-Георг Вік вядзе прарасійскую палітыку, падтрыманую Нямеччынай.

Я запісала інтэрв'ю з Хансам-Георгам Вікам у Патсдаме падчас канферэнцыі «Палітычныя перспектывы Беларусі». Спадар Вік у вельмі эмацыйнай форме выказаў сваё бачанне ролі апазіцыі ў Беларусі ды месца Беларусі ў Еўропе. Для многіх удзельнікаў яго выказванні прагучалі нечакана, хоць пасля сам Вік адзначыў, што заўсёды так гаварыў, але яго не чулі.

Напрыклад, Ханс-Георг Вік сказаў, што гэта вялікая памылка – лічыць беларускую апазіцыю слабой і малаўплывовай. Ён заявіў, што Беларусь – гэта краіна Цэнтральнай Еўропы, якая павінна паўнасцю на туды вярнуцца, і Еўропа нясе адказнасць за гэта таксама. Мае першае пытанне было пра беларускую апазіцыю, пра падтрымку яе з боку Захаду – якую беларускія ўлады называюць умяшаннем ва ўнутраныя справы.

– Апазіцыя тады моцная, – адказаў Х.-Г.Вік, – калі яна структураваная. Можа быць так, што ў структурах працуюць людзі, якія, магчыма, у гэты момант не маюць асабістага ці палітычнага поспеху, але калі яны развіваюць структуры і падтрымліваюць іх, то робяць справу, неабходную для любой палітычнай стратэгіі. А галоўнае – пабудаваць агульнанацыянальную структуру, базу для дзейнасці, і выйсці да людзей. І гэта ў Беларусі вельмі цяжка, бо цяперашні рэжым, у якім захаваліся сацыяльныя арганізмы савецкіх часоў, праз гэтыя арганізмы кіруе грамадзянамі. Грамадзянская супольнасць, пра якую я кажу, кіруецца не дзяржавай, а ўласнымі сіламі, яна сфармавала 2-3 важныя палітычныя структуры з міжнароднай падтрымкай, якая павінна працягвацца і ў будучыні. Легітымнасць гэтай падтрымкі грунтуецца на дакументах, падпісаных у Капенгагене, Парыжы ў 1990 годзе. Паводле іх усе дзяржавы ўзялі на сябе абавязанні пераходу ад таталітарных сістэмаў да дэмакратыі. Дык вось, гэтая трансфармацыя адбылася з дапамогай міжнароднай супольнасці ў адпаведнасці з абавязкамі, якія ўзялі на сябе краіны. Гэта што да міжнароднай падтрымкі і чаму яна легітымная.

У Беларусі гэтыя структуры ёсць. Мы маем з аднаго боку Кансультацыйную Раду апазіцыйных партыяў – у яе ўваходзяць 7-8 партыяў, што супрацоўнічаюць паміж сабой 3 гады. Яны здольныя прыйсці да кампрамісу на падставе ўзаемнага даверу, не зважаючы на тое, што ў новай палітычнай сітуацыі яны будуць апанентамі. Аднак яны таксама ведаюць і разумеюць, што гэтая дэмакратычная альтэрнатыва, за якую яны выступаюць, можа знайсці водгук у грамадскай думцы і сярод насельніцтва толькі тады, калі яны будуць выступаць з нейкай агульнай канцэпцыяй.

Нельга сказаць, што заходнія дэмакраты маюць у Беларусі надта вялікі поспех: пра гэта паклапацілася ўлада. Ды еўрапейская заходняя арыентацыя не настолькі вядомая ў Беларусі як, напрыклад, у Польшчы,

# Бясплатная медыцына канае...

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

У гэтым плане міністэрства аховы здароўя займае досыць радыкальную пазіцыю: кошты медычных паслугаў абавязкова трэба падвышаць, прычым яны павінны быць аднолькавымі для ўсяго насельніцтва. Можа, тады гэта стане штуршком, каб пачаць берагчы ўласнае здароўе.

Паводле Аляксандра Цыбіна, у ідэале міністэрства хоча дамагчыся, каб для дзяржаўных і камерцыйных медычных установаў існавалі адзіныя «правілы гульні», а адносіны паміж імі засноўваліся на канкурэнцыі і што да якасці паслуг, і што да коштаў на іх.

Упраўленне аховы здароўя, сацыяльнай абароны і санітарна-курортнага лячэння апарату Савету міністраў, куды мы звярнуліся па каментарый, прытрымліваецца больш стрыманых поглядаў на далейшае пашырэнне платных паслугаў у краіне. Паводле начальніка аддзелу аховы здароўя гэтага ўпраўлення Віктара Калбанава, у любым выпадку «платныя» падыход не будзе закранаць, напрыклад, пытанняў інтэнсіўнай тэрапіі, рэанімацыі. Льготы будуць для дзяцей і сацыяльна неабароненых слаёў насельніцтва. Апрача таго, аплата не будзе брацца з тых, каму лячэнне паказана па стане здароўя. Нават калі пералік платных медычных паслугаў будзе зацверджаны, то апошняе слова ўсё роўна застанецца за асобнымі медычнымі ўстановамі – ім вырашаць, зыходзячы з уласных умоваў, на што варта ўвесці аплату, а на што не.

Пры гэтым даводзіцца, што ўвядзенне платных медычных паслуг у краіне яшчэ не сведчыць пра ўзяцце курсу на паступовы пераход беларускай медыцыны да платных асноваў. Пакуль што ў Канстытуцыі запісана, што яна ў нас бясплатная. Ці, прынамсі, збольшага бясплатная.

Добрая справа — павольна пачынаць вучыцца плаціць за сябе з уласнай кішэні. У тым ліку і за здароўе, як ва ўсім свеце. Але нельга і блізка раўняць дабрабыт беларусаў і заходнееўрапейцаў. Падаражэў праезд на грамадскім транспарце і будзе даражэць яшчэ далей, хутка насельніцтва будзе само аплачваць 80% жыллёва-камунальных паслуг, давядзецца плаціць за лячэнне кожнага хворага зуба, потым здарыцца яшчэ што – ці хопіць на ўсё гэта нашых да смешнага мізэрных даходаў? Гэта дзяржаву чамусьці не дужа клапоціць...

**Алена ЛАБАНАВА**

# У траўні з'явіцца БТ-2

Другі нацыянальны тэлеканал пачне вяшчанне 1 траўня 2002 году. Пра гэта 30 студзеня на сустрэчы з журналістамі і прадстаўнікамі дыпламатычных місій паведаміў міністр інфармацыі Беларусі Міхаіл Падгайны. Нагадаем, што такі тэрмін для адкрыцця тэлеканалу вызначыў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

Паводле словаў міністра інфармацыі, зараз вядуцца перамовы з інвестарамі, гатовымі стаць заснавальнікамі новага беларускага тэлеканалу. Прычым, зазначыў Падгайны, па гэтае права ўжо выстраілася «дастаткова вялікая чарга». Другі нацыянальны тэлеканал стане закрытым акцыянерным таварыствам, у якім дзяржаве будзе належаць 51% акцый. Пры гэтым канал не будзе фінансавацца з бюджэту, дзяржава ўнясе толькі свой уклад у яго статутны фонд.

Як паведаміў Міхаіл Падгайны, зараз ён вядзе перамовы з першым намеснікам генеральнага дырэктара Грамадскага расійскага тэлебачання (*ОРТ*) Аляксандрам Любімавым пра садзейнічанне ў стварэнні тэлеканалу, а таксама набыццё некаторых праграм *ОРТ*.

Найбліжэйшая іх сустрэча адбудзецца на наступным тыдні, паведаміў Падгайны.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

## Не хапае грошай на веснавую сяўбу

Дэфіцыт фінансавых сродкаў для правядзення веснавых палявых работ у поўным аб'ёме складае 259 млрд. рублёў, у тым ліку ў Брэсцкай вобласці — 40 млрд. рублёў, Віцебскай — 55 млрд. руб., Гомельскай — 42 млрд. руб., Гродзенскай — 33 млрд. руб., Мінскай — 48 млрд. руб., Магілёўскай — 41 млрд. руб. Пра гэта было заўлена 29 студзеня ў Мінску на паседжанні прэзідыуму Савету міністраў Беларусі.

Каб ліквідаваць дэфіцыт фінансавых сродкаў на сяўбу, урад даручыў мінсельгасхарчу і мінэканомікі ў двухтыднёвы тэрмін падрыхтаваць неабходныя матэрыялы па выдзяленні 60 тыс. тон гаруча-змазачных матэрыялаў у выглядзе таварнага крэдыту; павялічыць да 1 чэрвеня стаўкі падатку для падтрымкі вытворцаў сельгаспрадукцыі, харчавання і аграрнай навукі; выдзеліць частку экспартнай квоты па рэалізацыі калійных угнаенняў, накіраваўшы валютную выручку на дадатковае набыццё азотных і фосфарных угнаенняў на суму 10 млрд. рублёў.

Аблвыканкамам даручана правесці работу па прыцягненні шэфскіх арганізацый і прамысловых прадпрыемстваў дзеля аказання фінансавай і матэрыяльнай дапамогі ў правядзенні веснавых палявых работ.

**Вікторыя МЯЖЫЕВА**

## Да нас едзе дэлегацыя АБСЕ

3 лютага ў Мінск прыязджае дэлегацыя Парламенцкай асамблеі АБСЕ на чале з кіраўніком Рабочай групы па Беларусі, дэпутатам Бундэстагу Германіі Утай Цапф. Разам з ёю ў склад групы ўвайшлі Урбан Алін са Швецыі, Хелена Дземакова з Латвіі, мяркуецца таксама прыезд новага сябра Рабочай групы з Партугаліі спадара Райса. Прадстаўнік Украіны ў Мінск не едзе.

Пазіцыя ПА АБСЕ да Беларусі ў звязку з няспынымі нападкамі на місію АБСЕ ў Мінску і, у прыватнасці, з адмовай у візе былому кіраўніку КНГ АБСЕ Хансу-Георгу Віку кардынальна змянілася цягам аднаго тыдня.

23 студзеня на сесіі ПАСЕ ў Страсбургу прэзідэнт ПА АБСЕ Адрыян Севярын заявіў, што запланаваны на люты візіт дэлегацыі ПА АБСЕ адмяняецца, бо «беларускія ўлады высунулі непрымальныя ўмовы для прыезду»: каб візіт праходзіў без удзелу КНГ АБСЕ.

Адказнасць за пагаршэнне адносінаў з Еўропай А.Севярын цалкам усклаў на афіцыйны Мінск, акрэсліўшы міжнародную палітыку, якую той праводзіць, як «самаізаляцыю». Адрыян Севярын заявіў: «Мы не маем намеру адступаць ад нашых прынцыпаў. І нам не павінны навязваць нейкія формы пагроз».

Праз лічаныя дні кіраўнік Рабочай групы па Беларусі Ута Цапф заявіла радыё «Свабода»: «Спадар Хвастоў напісаў мне вельмі прыязны ліст з запрашэннем прыехаць у Мінск, і гэтае запрашэнне я прыняла». 22 студзеня міністр замежных справаў Міхаіл Хвастоў сапраўды накіраваў ліст Уце Цапф, дзе ён ужо нібыта не настойвае на сваім патрабаванні праводзіць візіт без удзелу місіі АБСЕ.

Праграма візіту дапрацоўваецца, але, па словах Уты Цапф, чакаюцца сустрэчы з прадстаўнікамі ўлады, апазіцыі, прэсы, праваабарончых арганізацыяў. «Размова будзе весціся пра ўмацаванне правой парламенту (гэта вельмі важны момант), адносна пытання свабоды СМІ, адносна будучага закону аб друку і закону аб выбарах, які зараз абмяркоўваецца. І, вядома, мы будзем гаварыць пра тое, як развіваць і ўсталёўваць цывілізаваныя стасункі паміж уладай і апазіцыяй у Беларусі».

**Рыгор БУЯН**

## Будаўнікі патрабуюць заробку

30 студзеня работнікі розных падраздзяленняў магілёўскага будаўнічага трэсту № 12 правялі акцыю пратэсту з патрабаваннем своечасовай выплаты заработнай платы.

Каля 30 будаўнікоў прыйшлі ў аблвыканкам. Яны запатрабавалі сустрэчы з кіраўніцтвам вобласці. Паводле словаў лідэра арганізацыі Свабоднага прафсаюзу будтрэсту Аляксея Паўлоўскага, будаўнікі яшчэ не атрымалі заработнай платы за снежань мінулага году. Сярэднямесячная заработная плата ў трэсце — 50-60 тысяч рублёў. Летась будаўнікі ўжо сустракаліся з кіраўніцтвам гарвыканкаму па праблеме несвоечасовай выплаты зарплаты і атрымалі запэўніванні, што грошы будуць выдавацца поўнасцю і ў тэрмін. Аднак гэтае абяцанне выканана не было.

Намеснік старшыні аблвыканкаму Міхаіл Красной, які курыруе праблемы будаўніцтва, зазначыў, што прыярытэт пры выплаце заработнай платы аддаецца бюджэтным арганізацыям. Тым не менш, паводле словаў Краснова, у найбліжэйшыя два-тры дні будаўнікам будуць пералічаны грошы за выкананую на аб'ектах работу.

**Канстанцін УВАРАЎ**

**ПРАТЭСТЫ**

## Замест страйку – перамовы

Папераджальны страйк, абвешчаны на ВА «Беларуськалій» 1 лютага з 12.00 да 12.05, не адбудзецца. Дзеля захавання салігорскіх прафсаюзаў страйкам прыняў рашэнне ўступіць у калектыўную працоўную спрэчку з адміністрацыяй «Беларуськалію», у працэсе якой вылучыць цэлы пакет патрабаванняў.

30 студзеня суддзя Мінскага абласнога суду Генадзь Комель прызнаў незаконным рашэнне мітынгу гарнякоў, які прайшоў 11 студзеня ў Салігорску, аб правядзенні 1 лютага пяціхвілiннага папераджальнага страйку. Страйк меўся прайсці ў выпадку, калі ўрад да 1 лютага не адменіць пастанову, якою касуецца механізм безнаўняга пералічэння складак. Такім чынам, суд задаволіў патрабаванне адміністрацыі «Беларуськалію», якая і звярнулася з іскам да прафкаму Незалежнага прафсаюзу гарнякоў ВА «Беларуськалій» і БНП у цэлым, і прызнаў рэзалюцыю мітынгу аб папераджальным страйку незаконнай.

Старшыня Незалежнага прафсаюзу гарнякоў і адначасова лідэр стачкаму Салігорску Віктар Бабаед лічыць рашэнне Мінаблсуду «палітычным». «Рашэнне суду ніяк не закранае прафсаюзы і нікога ні да чога не абавязвае. У рашэнні суду напісана, што рашэнне мітынгу незаконнае. Аднак арганізатары мітынгу разумелі, што лёс рэзалюцыяў, якія прымаюцца на мітынгах, заканадаўствам ніяк не вызначаецца, як не вызначана і ступень іхнае законнасці. Гэта была публічная воля грамадзянаў – удзельнікаў мітынгу, якія самі арганізаваліся. Я ўпэўнены, што гэта палітычнае рашэнне, якое накіравана на тое, каб аказаць ціск на прафсаюзы», — заявіў В.Бабаед.

Тым часам, стачкам «Беларуськалію» мае намер звярнуцца з пакетам патрабаванняў да кіраўніцтва прадпрыемства. Яны маюць збольшага матэрыяльны характар. «Разрыў заробкаў паміж дапаможнымі структурамі складае прыкладна тры разы. Мы збіраемся патрабаваць павялічыць заробкі для дапаможных службаў на 100%. Дужа праблемная сітуацыя з аплатай працы інжынерна-тэхнічных работнікаў: начальнік горнага ўчастка зарабляе ў тры разы меней, чым машыніст. Гэта таксама нонсенс, і мы таксама патрабуем павялічыць заробкі ІТР на 100%. Акрамя таго, будуць іншыя, больш дробныя патрабаванні, – заявіў Віктар Бабаед, і дадаў: – У выпадку незадавальнення патрабаванняў страйк будзе ўжо не пяціхвілінны – бестэрміновы».

**Рыгор БУЯН**

# «Мінск мае еўрапейскі дух»

Чэхіі. Гэта азначае, што давядзецца доўга наганяць, і гэта другая падстава, чаму я хацеў бы большай заангажаванасці еўрапейскіх дзяржаваў, нейкай рэальнай падтрымкі, інакш нічога не будзе.

*Абмяркоўваючы пытанне, як усё ж зварухнуць працэс дэмакратызацыі ў Беларусі, еўрапейскія палітыкі спрабуюць высвятліць, ці могуць паразумецца апаненты ў самой Беларусі. Маецца на ўвазе апазіцыя і прадстаўнікі ўлады, схільныя да ліберальных поглядаў. Ханс-Георг Вік, які ў свой час з малым плёнам спрабаваў наладзіць дыялог паміж апазіцыяй і ўладай, так ацэньвае ўнутраныя працэсы ў Беларусі, якія ўплываюць на стан дэмакратызацыі:*



Фота Ул. ШЛАПАКА

– Мая ацэнка сітуацыі на дадзены момант такая (праўда, я магу памыляцца, і яна можа змяніцца): цяперашні ўрад увогуле не імкнецца да дэмакратычных рэформаў, ліберальных рэформаў ані ў палітычнай сферы – я маю на ўвазе выбары, мас-медыі, функцыі парламенту, – ані ў эканоміцы. Тут дамінуе рэгуляванне на фоне складаных дачыненняў з Расійскай Федэрацыяй, і адначасова вызначаючага магчымасці і абмежаванні ліберальнай эканамічнай палітыкі. Гэта трагічная сітуацыя што да павагі асобы, якая стаіць у апазіцыі да сістэмы. Гэтая асоба, асобны грамадзянін, які заангажаваны ў апазіцыю, церпіць пераслед. Яму ўскладняюць жыццё. У Сярэднявеччы выганялі з грамады людзей, калі яны адступалі ад агульнапрынятага парадку – тое самае зараз здараецца ў Беларусі. Заступацца за такіх людзей было для мяне заўсёды справай веры ў слушнасць палітычных мэтаў, веры ў дэмакратычныя прынцыпы і грамадзянскія правы. Я спрабаваў рабіць гэта так, каб пасприяць тым, хто пераследаваўся з палітычных прычынаў, і заўсёды арыентаваў на гэта місію. Гэта мусіць быць важным фактарам у еўрапейскіх арганізацыях. Калі можна знайсці прагматычнае рашэнне ў дачыненнях з уладамі, своеасаблівы *modus vivendi* – добра. Але калі рашэнне не супраўджаецца гатоўнасцю сістэмы паважаць апанентаў, прагматычнага рашэння быць не можа.

*Амбасадар Ханс-Георг Вік адзначыў, што Еўропа павінна самастойна ды больш рашуча даваць рады праблеме недэмакратычнасці Беларусі. Гэта не павінна быць толькі амерыканскім інтарэсам, бо Еўропа мае адпаведны досвед і рэсурсы.*

– Я сказаў так і пачаў гэтую тэму таму, што ў Беларусі існуе меркаванне, быццам еўрапейцы не здольныя ні на што іншае, як казаць «Так, сэр», і праводзяць інтарэсы ЗША – сусветнай звышдзяржавы. Я хацеў нагадаць беларускім удзельнікам, а разам з тым прадстаўнікам ліберальнай групы і прадстаўнікам Савету Еўропы, што пазіцыя грамадзянскіх супольнасцяў у Еўропе (праўда, і тут заўважалася ваганне, я сам з краіны, дзе было радыкальнае ваганне; але такая, на жаль, нашая гісторыя), пазіцыя ў дачыненні да асобы і яе прававарога статусу фармавалася цягам стагоддзяў і гэта не прадукт стратэгічнай сітуацыі, якая вызначаецца шчыльным саюзам Еўропы і ЗША. Наадварот, у гэтым – своеасаблівая сіла Еўропы. Таму яна не можа, за выключэннем пэўных тактычных абставінаў, калі ідзе рух у бок дэмакратыі, пагадзіцца з існаваннем аўтарытарных рэжымаў.

*Далей я папрасіла спадара Віка пракаментаваць закіды адносна таго, што ён праводзіў прарасійскую палітыку.*

– Гэта амаль самае цяжкое пытанне, якое мне задавалі. Як у кагосьці наагул магло скласціся меркаванне, што я праводзіў расійскія інтарэсы? Што такое расійскія інтарэсы? Гэта – дамагчыся псеўдадэмакратычнага апраўдання цяперашняму рэжыму. У гэтым нібыта палягаюць інтарэсы Расіі. Я не бачу, каб хто-небудзь зрабіў хоць найменшы крок дзеля дасягнення чагосьці падобнага. Квазідэмакратычныя выразы не мо і адпавядае расійскім інтарэсам, але нашыя дзеянні былі скіраваныя на дасягненне канкрэтных мэтаў.

*У адным з інтэрв'ю Ханс-Георг Вік заявіў, што ён не вельмі задаволены вынікамі сваёй працы ў Мінску. Мы папрасілі яго патлумачыць гэта.*

– Я не казаў, што гэта не было паспяховым. Я ўвесь час казаў, што гэта было цяжка, вельмі цяжка. Але не самае цяжкое. У якой бы краіне ты ні працаваў, трэба знайсці курс на разуменне тэмаў, якія датычаць сутнасці палітычнай арыентацыі краіны. Гэта вельмі цяжкая задача.

Ва ўсіх іншых краінах, дзе працуе АБСЕ, перадусім на Балканах, існуюць урады, якія хочуць ісці далей гэтым шляхам, хоць АБСЕ мае там свае праблемы: бальшыня хоча іншага, ёсць нацыянальныя аспекты, якія ўскладняюць працу, але ў ніводнай краіне няма прынцыповага непрымання той плюралістычнай, дэмакратычнай мадэлі, якую мы прадстаўляем.

Беларусь – адзіная краіна, дзе ёсць такое прынцыповае непрыманне з боку ўладаў, і таму нам у Беларусі цяжка працаваць. Выбары не былі дэмакратычнымі, яны не былі ўдалымі, але я бачу, што развіццё грамадзянскай супольнасці – на дарозе ад аўтарытарнай дзяржавы да лібералізацыі. І гэта вялікі поспех. Грамадзянская супольнасць утварылася сама па сабе, а не паводле прадпісання дзяржавы, і рухаецца да дэмакратыі. Гэта – нямала.

*І пры канцы нашай гутаркі я ўзгадала спадару Віку ягоныя словы пра Мінск: «ліберальны, буржуазны горад, які не мае маёмасці», і спытала, у чым амбасадар убачыў ліберальнасць Мінску?*

— Некалькі дзён таму адзін прафесар прыехаў з Санкт-Пецярбургу ў Мінск, дзе цяпер працуе. Я запытаўся ў яго, чым Мінск адрозніваецца ад Санкт-Пецярбургу. Ён сказаў мне: «Санкт-Пецярбург мае еўрапейскі стыль, а Мінск мае еўрапейскі дух». Мінск быў адбудаваны з правінцыйнага горада ў індустрыяльную манапалію з мноствам акадэмічных установаў, і людзі, якія там працуюць, ведаюць усё, пра што думаецца і што адбываецца ў іх галінах у свеце. Яны хацелі б сваё веды ўжыць як мае быць, але савецкае мінулае, адсутнасць фінансавання і той факт, што яны – дзяржаўныя ўстановы, не даюць ім разгарнуцца. Але ўзровень адукацыі ў іх такі самы, як у ліберальных краінах.

**Вольга КАРАТКЕВІЧ**
**Радыё «Свабода»**

# Змены свету

*Свет змяніўся пасля 11 верасня. Гэтая растыражаваная фраза чуваць з усіх бакоў вось ужо амаль паўгода.*

Але ці сапраўды змяніўся свет пасля 11 верасня? Наўрад ці.

Тое, што Усама бін Ладэн і Талібан вызначаны як ворагі-тэрарысты №1, гэта адно палітычны бок праблемы; змястоўнага раскладу і аналізу тэрарызму як з'явы амаль не чуваць. Ды, відаць, гэтага і не трэба, бо тады сапраўды прыйдзецца ўсім чыста мяняць свае узаемадачыненні са светам, гэта значыць – прымушаць змяняцца не толькі іншых, але і сябе, а гэта надта дарагі праект, куды даражэйшы, чым чарговая вайна ці «антытэрарыстычная аперацыя», таму абодвум бакам значна прасцей захаваць усё, як было. Таму не важна, зловяць Усаму і перамогуць Талібан ці не, свята месца пустым не бывае.

Да таго ж адкрытае пытанне, хто такі тэрарыст увогуле – барацьбіт за светлую будучыню кшталту бальшавікоў ці італійскіх «Чырвоных брыгадаў», героі беларускай партызанкі – савецкай (легендарны бацька Мінай) ці антысавецкай (такі ж легендарны генерал Вітушка), лідэр чачэнскага супраціву Аслан Масхадаў альбо таталітарная ўлада, што знішчае сваіх і несваіх грамадзянаў без разбору.

Адзін з лідэраў Палесцінскай дзяржавы вызначыў: нельга лічыць тэрарыстам таго, хто змагаецца супраць акупантаў сваёй зямлі. Але, мяркую, пад гэтым (прынамсі сёння) не падпішуцца, прыкладам, ізраільцяне ці расейцы ў адрозненне ад, скажам, беларусаў ці ірландцаў.

Яшчэ адно вызначэнне: тэрарызм не тэрарызм, калі ён маральна апраўданы. Ну, напрыклад, звяржэнне дыктатарскага таталітарнага рэжыму. Але ўсё гэта так ці інакш звязана з ахвярамі, з забойствам. Ці можа стаць забойства маральным?

Тэрарыст – асоба, якая ахвяруе перадусім сваім жыццём, а ўжо пасля жыццямі іншых, а для таго каб ахвяраваць сабой, пагадзіцеся, патрэбна сур'ёзная матывацыя. Даволі часта гэта голас пратэсту слабейшага, які ўпарта не хочуць пачуць і зразумець.

Сёняшні тэрарыст заўтра можа зрабіцца нацыянальным героем і лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру, як той жа Арафат, альбо, наадварот, герой і збідуя перапрацаца ў тэрарыста пры ўладзе – такіх прыкладаў безліч.

Свет недасканалы, тэрарызм развіваецца там, дзе для яго створаны ўмовы. Для пераважнай большасці арабаў і краінаў мусульманскага ўсходу, якія жывуць, зноў жа, пераважна ў галечы і вінавацяць, часам небеспадстаўна, ва ўсіх грахах Злучаныя Штаты, Усама бін Ладэн – нацыянальны герой, гэта відавочна. Але такая акалічнасць, відаць, не перашкодзіла б яму, апынуўшыся на чале ўлады, стварыць таталітарна-тэрарыстычны рэжым, што ярка засведчыў блізкі яму па духу рух – Талібан. Непісьменнасць шырокіх народных слаёў правакуе і патрабуе простых адказаў на складаныя пытанні, выштурхоўваючы на паверхню радыкальныя групоўкі, якія дзейнічаюць па простых формулах: свой – чужы. Да таго ж, у выпадку з радыкальнымі плынямі ісламскіх фундаменталістаў, тыя разглядаюць апанентаў адно як біялагічны від, а не як падобных да сябе, што выклікае аналогіі з галівудскім фантастычным баевікам – «Чужыя».

Асноўнае, што можа спыніць тэрарызм як з'яву, што знішчае ягоную жыццёвую прастору, – асвета, адукацыя і культура. Нэндза цягне за сабой цемрашальства, цемрашальства – тэрарызм, і як вынік – таталітарызм.

На жаль, свет, заняты глабалізацыяй, лянуецца і амаль не зважае на прадвесці.

Паўставанню сфармаваных тэрарыстычных рэжымаў папярэднічаюць катастрафічныя з'явы ў галіне культуры. Так было ў Нямеччыне, Савецкім Саюзе, Кітаі, Камбоджы і г. д. Калі талібы руйнавалі каштоўную спадчыну чалавечай цывілізацыі – найбуйнейшыя ў свеце выявы Буды ў Афганістане, цывілізаваны свет, па вялікім рахунку, праглынуў выклік барбараў. Наступныя абрынуліся вежы-хмарачосы ў Нью-Ёрку.

Стаўленне да культуры – формула універсальная, яна дзейнічае паўсюль, у тым ліку і ў Беларусі. Галоўная наша праблема, як і тагож у Афганістану, – непісьменнасць і абыякавае стаўленне да культуры: і да сваёй, і да сусветнай. Улада адно толькі выразнік глыбінных народных памкненняў, і калі яна кажа, што, маўляў, я сваю краіну цывілізаваным шляхам не павяду, яна адчувае, што гэтая заява ёй нічым не пагражае. Але вялікай ілюзіяй будзе меркаваць, што хамам жыць прасцей і лягчэй. Думаецца, што цяпер гэта разумее і сама ўлада, але ўжо надта позна. «Беларусь, мая старонка, куток цемнаты».

Калі здымалі і дзёрлі на кавалкі нацыянальны сцяг і герб «Пагоню», сімвалы перадусім нацыянальнай гісторыі, дасканалыя з пункту погляду эстэтыкі, выкідалі з установаў родную мову – фундамент нацыі, спрабавалі сцерці даты незалежнасці, – кірунак шляху, па якім пакрочыць краіна, праглядаўся дужа выразна.

Яшчэ быў на Радзіме Васіль Быкаў, яшчэ існавала «Вольная сцэна», яшчэ ішлі ў Купалаўскім «Тутэйшыя» і паэтаў за іх творчасць не кідалі за краты, урэшце, яшчэ ўсе былі жывыя, ніхто нікуды не знік.

Ці змяніўся для нас свет пасля 11 верасня?

Відаць, не. Для нас ён змяніўся ў траўні 1995 году.

**Алег ДАШКЕВІЧ**

# «Нацыяналка» ўпарадкоўвае фонд грамкружэлак

*У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі 29 студзеня адбылася прэзентацыя лабараторыі, якая будзе пераводзіць фонды грамзапісаў у электронную лічбавую форму.*

Неабходнае абсталяванне для лабараторыі – камп'ютэры, апаратура па пераводзе гуказапісаў у электронную лічбавую форму і матрыцы для выпуску кампакт-дыскаў – набылі дзякуючы фінансавай падтрымцы пасольства ЗША.

Выступаючы на адкрыцці лабараторыі, дырэктар бібліятэкі Галіна Алейнік адзначыла, што унікальны фонд грамкружэлак бібліятэкі збіраецца з 1960 году і налічвае 25 тысяч вінілавых дыскаў. Амаль 80% гэтай калекцыі складаюць запісы фальклорнай і класічнай музыкі розных краін і народаў, сярод якіх асаблівую каштоўнасць маюць фанаграмы нацыянальнага фальклору і твораў беларускіх кампазітараў. «Аднак фонд грамплацінак вычарпаў свой рэсурс. Дзякуючы дзейнасці лабараторыі старыя запісы можна аднавіць і зрабіць даступнымі для шырокай публікі. А дзякуючы выпуску кампакт-дыскаў іх змогуць выкарыстоўваць наведнікі як Нацыянальнай, так і рэгіянальных бібліятэк краіны», – сказала Алейнік.


Фота УЛАДЗІМІРА ...

Паводле яе словаў, цягам апошніх 10 гадоў пасольства ЗША аказвае разнастайную дапамогу галоўнай бібліятэцы краіны. Так, у дар Нацыянальнай бібліятэцы перадаваліся камплекты літаратуры, праводзіліся канферэнцыі, ажыццяўляліся камандзіроўкі ў ЗША беларускіх бібліятэкараў для знаёмства з працай амерыканскіх інфармацыйных цэнтраў і бібліятэк. Акрамя таго, пры дапамозе пасольства ЗША Нацыянальная бібліятэка змагла падпісацца на 40 найменняў перыядычных выданняў Амерыканскага навуковага таварыства, найбольш актуальных для беларускіх спецыялістаў.

Паводле словаў пасла ЗША Майкла Козака, стварэнне лабараторыі – адзін з 60 праектаў, рэалізаваных у рамках праграмы «Пасольскі фонд падтрымкі культурнай спадчыны», якая ажыццяўляецца з 2001 году.

**БелаПАН**

# Кватэра за цацкі

У юбілейны для сябе 70-ы год жыцця найстарэйшы на Брэстчыне народны майстар Мікалай Васільевіч Тарасюк атрымаў магчымасць пераехаць з вёскі Стойлы Пружанскага раёну на сталае жыхарства ў райцэнтр. Камунальная кватэра выдзелена паводле настойлівых зваротаў вясковай сям'і накшталт паляпшэння жыллёвых умоваў у сувязі з цяжкай хваробай жонкі і цеснаты ў хаце праз драўляныя цацкі дзеда. Гэтыя цацкі ў вялікай колькасці закупілі абласны і мясцовы краязнаўчыя музеі, а грошы пайшлі на аплату гарадскога жылля.

Спадар Тарасюк мае вялікі дар захапляцца праз усё жыццё дзіцячымі забавамі. Людзей, птушак, жывёл і сюжэтныя малюнкі ён выразае з дрэва і фарбуе. Ёсць у ягонай калекцыі Лукашэнка за трыбунай на нейкім селектары з падначаленымі, які пазнаецца па вусах пад носам, лысіне на галаве ды цёмных вачах на твары. Кампазіцыя раскулачвання сям'і беларускага заходніка ў 1939 годзе падаецца праз драўляныя фігуркі самотных гаспадароў і чырвонаармейцаў у форме, якія выносяць з панадворку барану і плуг. Вяселле майстар паказвае, адпраўляючы маладых вянчацца ў царкву на дыхтоўнай коннай брычцы з натоўпам вясёлых і цвярозых людзей. Затое малюнкі пра цяперашнія папойкі выклікаюць агіду выявамі непрыстойных дзядзькоў і цётак. Іншы раз самавук у мастацтве лічыць патрэбным зрабіць надпіс для гатовай працы. Так здарылася з кампазіцыяй, якая выяўляе высокі густы лес, агароджаны шчыльным плотам з варотамі на замку. Уверсе збоку – фанерная шыльдачка з надпісам: «Зноў канцлагеры на Бацькаўшчыне».

– Змалку я памятаю, як выходзіла з Белавежскай пушчы да людзей дзікая жывёла, а зараз яна за калючым дротам, як у канцлагеры, – скардзіцца майстар і тым самым апраўдвае катэгарычнасць адлюстравання хвалюючай тэмы.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

## ДАТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЁСЫ

### 1 лютага

Продкі французаў – галы – адзначалі Новы год.

**1717**. Пад ціскам Расіі і Прусіі сойм Рэчы Паспалітай на адмысловым «нямым» паседжанні пагадзіўся на абмежаванне ўлады караля і гетманаў, скарачэнне польскага і беларуска-літоўскага войскаў, пацвердзіў права *liberum veto*.

**1977**. У Парыжы адчыніўся ультрамадэрновы паводле архітэктуры (аўтары – англічанін Рычард Роджэрс і італьянец Рэнца Піана) Музей сучаснага мастацтва імя Пампіду. Саміх мастакоў на цырымоніі амаль не было. Паліцыя затрымала некалькі пікетоўшчыкаў, якія пратэставалі супраць дзяржаўнага кантролю над авангардным мастацтвам.

### 2 лютага

**1556**. У выніку землятрусу ў кітайскай правінцыі Шаньсі загінулі 820 тысячаў чалавек. Паводле колькасці ахвяраў гэта быў найжахлівейшы землятрус у чалавечай гісторыі.

**1852**. У Лондане, на вуліцы Фліт-стрыт, адчынілася першая ў свеце платная прыбіральня (з вадзяным злівам) для мужчынаў. Жаночая прыбіральня адчынілася 11 лютага. Галоўным ініцыятарам гэтае навінкі быў вынаходнік вішчавальных паштовак Генры Коўл. Платныя прыбіральні рэкламаваліся ў газетах, было раздадзена 50 тыс. рэкламных улётак, але безвынікова: за ўвесь люты з паслуг прыбіральняў скарысталіся толькі 58 паноў і 24 пані. Поспех прыйшоў праз тры гады.

**1882**. Нарадзіўся Джэймс Джойс, адзін з найбуйнейшых пісьменнікаў-мадэрністаў, ірландзец. Найбольш вядомы ягоны раман «Уліс» (1922), дзе эпічнымі сродкамі апісваецца адзін дзень жыцця некалькіх дублінцаў, спачатку быў забаронены і ў Брытаніі, і ў ЗША. Па-беларуску раман быў надрукаваны раней, чым па-руску (пераклаў Ян Максімюк з Беласточчыны).


Цэнтр Пампіду ў Парыжы

**1972**. Раз'юшаны натоўп спаліў у Дубліне будынак брытанскага пасольства, помсцячы за 13 каталікоў, забітых брытанскімі жаўнерамі 30 студзеня ў Паўночнай Ірландыі.

**1986**. У Ліхтэнштэйне жанчыны ўпершыню атрымалі права ўдзельнічаць у выбарах.

### 3 лютага

**1857**. У Берліне памёр ад грыпу заснавальнік расійскай класічнай музыкі Міхаіл Глінка.

**1927**. Паліцыя расстраляла ў мястэчку Косаве Палескага ваяводства дэманстрацыю сялянаў, якія пратэставалі супраць разгрому польскімі ўладамі БСРГ. Загінулі 6 чалавек, дзесяткі былі паранены.

**1945**. Больш за 1 000 самалётаў бамбавалі Берлін.

**1957**. Ад паводкі на ўсходнім узбярэжжы Англіі загінулі больш за 280 чалавек.

**1987**. Зяць Брэжнева, першы намеснік міністра ўнутраных спраў СССР Юрый Чурбанаў быў арыштаваны за хабарніцтва.

### 4 лютага

**1902**. Нарадзіўся адзін з піянераў авіяцыі амерыканец Чарльз Ліндберг, які першым у 1927 г. пераляцеў Атлантычны акіян. Каб даляцець з Нью-Ёрку да Парыжу, пілоту спатрэбілася 33 гадзіны. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны Ліндберг быў кансультантам Люфтвафэ.

**1931**. Каб унікнуць арышту за прыналежнасць да міфічнага Саюзу за вызваленне Беларусі, скончыў жыццё стрэлам у скронь прэзідэнт АН БССР, дырэктар Інстытуту гісторыі Усевалад Ігнатоўскі.

### 5 лютага

**1637**. Памёр пісьменнік-палеміст, уніяцкі мітрапаліт Іосіф Вельямін. У 1607 г. заснаваў у Вільні першую базыльянскую школу (семінарыю), а ў 1623 г. стаў першым кіраўніком (генералам) ордэна Св. Базыля. У 1615–16 гг. ездзіў у Маскву, спрабуючы далучыць да уніі РПЦ.

**1947**. У Глыбоцкай і Пастаўскай педвучэльнях былі арыштаваныя студэнты, што стварылі падпольны «Саюз беларускіх патрыётаў». Мэтай арганізацыі было падвышэнне нацыянальнай свядомасці будучых настаўнікаў, якія па заканчэнні вучэльні мусілі прапагандаваць беларускую ідэю па вёсках. Трыбунал прысудзіў больш як 30 сябрам СБП пазбаўленне волі ад 5 да 25 гадоў.

### 6 лютага

**1802**. Нарадзіўся англійскі навуковец, адзін з вынаходнікаў тэлеграфу Чарльз Уітстоўн. Вынайшаў два музычныя інструменты: канцэрціна і губны гармонік.

**1897**. Востраў Крыт далучыўся да Грэцыі.

**1912**. Нарадзілася каханка Гітлера Ева Браун. Пазнаёміліся яны ў пачатку 1930-х у адным з мюнхенскіх фотаатэлье, дзе працавала Ева. Ажаніліся напярэдадні самагубства ў 1945-м.

**1922**. Дэкрэтам УЦВК была скасаваная Усерасійская надзвычайная камісія па барацьбе з контррэвалюцыяй (ВЧК). Функцыі «карнага мяча рэвалюцыі» былі перададзеныя Дзяржаўнаму палітычнаму ўпраўленню (ГПУ) пры Наркамаце ўнутраных справаў.

**1932**. Нарадзіўся вядомы французскі рэжысёр і кіназнаўца Франсуа Труфо, адзін з лідэраў кінастылю «новая хваля» (аўтары адмовіліся ад кіназорак і масавых сцэнаў, здымак у павільёнах і нават ад кінасцэнарыяў). Труфо атрымаў прэмію «Оскар» за стужку «Амерыканская ноч», а ў фільме Спілберга «Кантакты трэцяга ўзроўню» сыграў ролю французскага навукоўца.

**1952**. Памёр у сне ад тромба ў сэрцы англійскі кароль Георг VI. Сваё здароўе ён падарваў яшчэ падчас Другой сусветнай вайны (паводле словаў аднаго з прыдворных, «кароль надта позна клаўся спаць і зашмат курыў. Ён літаральна паміраў за Англію»). Звычка да тытуню загубіла ягонага бацьку Георга V і дзеда Эдварда VII. У той самы дзень на брытанскі трон узышла і ўжо 50 гадоў намінальна кіруе краінаю каралева Елізавета II.

### 7 лютага

**1812**. Нарадзіўся англійскі пісьменнік Чарльз Дыкенс, аўтар раманаў «Олівер Твіст», «Пасмяротныя нататкі Піквіцкага клуба» ды іншых, у тым ліку аўтабіяграфічнага «Дэвід Каперфілд».

**1906**. У Вільні прайшоў устаноўчы сход Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі. У кіраўніцтва былі абраныя біскуп Эдвард Роп, прыхільнік раўнапраўя ўсіх моваў краю. Партыя не паспела разгарнуць сваю дзейнасць: ужо праз месяц царская ўлады яе забаранілі.

**1942**. У Пінску адбыўся сабор украінскіх праваслаўных епіскапаў, які адрадзіў Украінскую праваслаўную аўтакефальную царкву.

**1992**. Міністры фінансаў і замежных справаў дзяржаваў-сябраў ЕЭС падпісалі ў нідэрландскім горадзе Маастрыхце «Дамову аб Еўрапейскім Саюзе», якая стварыла на кантыненце агульную эканамічную, валютную і палітычную прастору.

Падрыхтаваў **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Заходнебеларускі слон

## Гутарка з дырэктаркаю Гродзенскага заапарку Цэлінай Пагерылай

***— Скажыце, калі ласка, перш за ўсё: што сёння са сланом Суракам, які захварэў?***

— Я лічу, што ёсць паляпшэнне. Жывёлу мучыў боль унутры, пад скурай, у суставах. Сёння гэтыя болькі пачалі вылазіць вонкі. Цяпер ягоныя скулы лягчэй лячыць, апрацоўваць раны. Слон такі разумны, што бярэ сам анучы, якімі мы стараемся апрацаваць раны, і сам пачынае хворыя месцы шараваць. Ён ведае, што мы яму робім добра, мы просім, і ён узнімае нагу і дае яе апрацаваць. Праўда, пачынае ўжо хітраваць. Зразумеў, што мы даем яму шмат лекаў і з бананамі, і з яблыкамі, і з батонамі. Ён возьме кавалак «сваёй рукой»-хобатам ежу і выкідае лекі. Таму мы кожны дзень штосьці выдумляем, каб даць яму лекі.

***— Ці не паўплывала на яго халодная зіма?***

— Яна не вельмі халодная. У заапарку ён жыве 38 гадоў, зімы бывалі і халаднейшыя. Ён прызвычаіўся да нашых зімаў і адчуваў сябе добра. Мы кансультаваліся з дактарамі з маскоўскага заапарку, гэта ўзроставае. Жывёліна ўсё жыццё стаіць на нагах, ніколі не кладзецца.

***— Раскажыце, як жыхары гораду адгукнуліся, калі стала вядома, што Сурак захварэў.***

— Для яго лячэння патрэбна вельмі шмат медыкаментаў. Людзі адразу панеслі і спіртное, якое неабходна для апрацоўкі ранаў, і антыбіётыкі, і харчы. Збіралі грошы на працы, арганізацыі аказалі дапамогу. Аблгаз пералічыў 100 тысяч рублёў, гарбаза — 3 літры спірту, у аграпрамбанку сабралі грошай больш за 60 тысяч. Сёння вось дзеці са школы сабралі і прынеслі 2 тысячы. Нам яны патрэбны, каб пайсці і купіць той жа алей або ў аптэку, бо няма часу чакаць, пакуль пералічаць грошы. З мытні адзін раз прынеслі 3 літры спірту, другім разам яшчэ 2 літры. Людзі куплялі і прыносілі гарэлку таксама. Пальчаткавая фабрыка дала мех цукру, Скідэльскі цукровы камбінат таксама мех. Сураку трэба звычайна кілаграм на дзень, а для ўзмоцненага харчавання мы даём яму тры.

***— Я памятаю, што гадоў 10 таму была спроба стварыць фонд прыхільнікаў, аматараў заапарку. Не атрымалася. Але падобная грамадская арганізацыя відавочна патрэбна. Каб нармальна дапамагаць заапарку.***

— Так, не хапае такой арганізацыі. Нас фінансуе абласное ўпраўленне культуры. Сёлета пакуль далі грошы толькі на кармы, а таксама на заробкі супрацоўнікам. Аніводнага рубля не далі на бягучы рамонт, а ў гэтым годзе заапарку 75 гадоў спаўняецца. І вельмі танныя білеты ўваходныя. Для дарослых усяго 250 рублёў, нават не купіш бохана хлеба. Я памятаю, калі хлеб быў 20 капеек, білет у заапарк каштаваў 30 капеек. Самі мы не можам павысіць цэны. Але каб білеты былі крыху даражэйшыя, можна было б за летні час зарабіць грошай для заапарку. Летась і ўвесь бягучы рамонт, і любое вядро набытае, боты, вілы, граблі — усё купілі за тыя грошы, якія зарабілі на білетах, гэта 20 мільёнаў рублёў. Бо на ўсё гэта грошы нам не выдзяляюць. Толькі далі на капрамонт кухні. І яшчэ цяпло аплачваюць і электрычнасць. А каб у год юбілею крыху прывесці да ладу заапарк, нам трэба, напэўна, адну тону фарбы, пафарбаваць усе вальеры, дамкі. Лаўкі ў заапарку разваліліся. Людзі прыходзяць улетку, калі добрае надвор'е, падоўгу гуляюць з дзецьмі, а пасядзець адпачыць нельга.



***— Такое ўражанне, што заапаркам ніхто не цікавіцца, хоць ён і адзіны ў Беларусі.***

— Вось, каб горад звярнуў на нас увагу, гарадскія ўлады. Ёсць прадпрыемствы, банкі, фірмы, бізнесмены. Каб буйная арганізацыя пералічыла заапарку ў год 100-200 тысяч рублёў... Альбо хай дапамаглі б цэментам, шыферам, цэглай, пліткай тратуарнай. Бо яны ж фінансуюць і фестывалі, і спартыўныя спаборніцтвы.

***— А сталічныя ўлады?***

— Летась мы звярнуліся па «прэзідэнцкі» грант. Мы склалі спіс жывёлаў, якіх можам утрымліваць у нашых умовах. На 26 тысяч даляраў. А выдзелілі нам 10 мільёнаў рублёў. На гэтыя грошы ўдалося скамплектаваць пару мядзведзю барыбала, гуанака, гіенам плямістым. Купілі трох малпаў, птушак ды іншых. Але грошы мы атрымалі позна — толькі 30 лістапада, і трэба было спяшацца іх выкарыстаць да Новага году. З каўнаскім заапаркам разлічваліся валютай. І на сённяшні дзень гэтыя жывёлы не «растаможаны», трэба плаціць вельмі вялікую пошліну дзяржаве — 1 мільён 200 тысяч рублёў. А жывёлаў у Каўнасе купілі на 3 тысячы даляраў. Давялося праз аблвыканкам звяртацца ў адміністрацыю прэзідэнта, каб нас вызвалілі ад мытнай пошліны.

***— Вы даўно супрацоўнічаеце з каўнаскім заапаркам. Ці лепшыя там умовы для жывёлаў? Што можна было б зрабіць, каб палепшыць іх у нашым заапарку? Пры наяўнасці грошай, вядома.***

— Умовы там лепшыя. Ён знаходзіцца ў лесапарку на гарадской ускраіне. Чыстае паветра, і плошча — у 6 разоў большая за нашу. У нас усяго 3,4 гектара, прычым частка занята гаспадарчымі пабудовамі. У першую чаргу трэба зрабіць меліярацыйныя работы. Каля сланоўніка папросту балота ўвесну робіцца. Калісьці так падтапляла, што даводзілася ратаваць жывёлаў. Некаторыя лядашчыя будынкі варта разбурыць. Заапарк можна таксама крыху пашырыць. Нават гэта планавалася, дакументацыя была. Каб хаця б на адзін гектар пашырыцца... На капрамонт птушніка патрэбна 160 мільёнаў. Але добра, што ўжо не валіцца «малпоўнік». Няма сваёй ветлабараторыі, і толькі адзін доктар, які абслугоўвае ўсіх жывёлаў і птушак. За апошні год яму давялося часта прымаць роды. Але год быў няўдалы, не ўвесь маладняк удалося захаваць.

Некалькі гадоў у нас не было нават рыбінага тлушчу. Удалося цяпер набыць 18 літраў яго. І мы вельмі рады, што ўдасца жывёлаў падтрымаць. Не хапае мінеральных дабавак, вітамінных. Корм прывозіцца з калгасаў, дзе выкарыстоўваюцца хімікаты, у ім нітраты. Але мы бяром тое, што нам даюць.

***— Прымаць роды ў такіх розных жывёлаў, напэўна, няпроста?***

— Роды бываюць цяжкія. Нараджала самка яка, было выпадзенне маткі. Уратавалі ячыху. Былі ў ламы няўдалыя роды, разрыў маткі. Уратаваць яе не здолелі. А бывае, што гінуць жывёлы ад наведнікаў. Кана — самая буйная афрыканская антылопа – загінула летась. Кінулі ёй нейкія слодычы ў цэлафанавым пакеце, яна яго праглынула і загінула.

Летась размножыліся 20 відаў акварыумных рыб, 4 віды насякомых, 3 віды бруханогіх, птушак — 16, млекакормячых — 28. Драпежнікі апошнімі гадамі не размнажаюцца, няма параў. А раней чорныя пантэры размнажаліся, леапарды, ягуары. Цяпер спадзяёмся атрымаць патомства ад чырвоных ваўкоў, якія занесены ў Чырвоную кнігу.

**Гутарыў**
**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Ногі на стол...

*На мінскіх вуліцах рэдка сустрэнеш замежных турыстаў. Часцей за ўсё да нас едуць з «гарачых кропак» СНД, каб атрымаць прытулак у ціхай краіне.*

### З жыцця

Каля падземнага пераходу сядзіць у абадранай вопратцы з немаўлём на руках жанчына сярэднеазіяцкага выгляду. Побач бегаюць мурзатыя дзеці. Яны зазіраюць у вочы кожнаму прахожаму і патрабуюць: «Дай грошай на хлеб». Часцей «згаладалым» нашы чуллівыя людзі падаюць. Неяк каля універсаму «Цэнтральны» юным жабракам далі пачак пячэння, дык «згаладалыя» гулялі пачастункам у футбол.

У 2001 годзе 1 649 асоб атрымалі ці аднавілі грамадзянства Рэспублікі Беларусь. Від на пастаяннае жыхарства ў нашай краіне атрымалі 2 203 чалавекі з краін СНД і 339 – з краін далёкага замежжа. Зарэгістраваны 481 грамадзянін з краін СНД і 997 – з далёкага замежжа, якія атрымліваюць у нас адукацыю. У 2001 годзе нашу краіну па службовых справах наведалі 402 грамадзяніны з далёкага замежжа і 95 – з краін СНД. Органамі ўнутраных спраў Мінску дэпартавана з Беларусі 268 грамадзян з краін СНД і 178 – з краін далёкага замежжа.

За гэты ж час, па звестках сталічнай пашпартна-візавай службы, на пастаяннае месца жыхарства з'ехала 2 293 чалавекі (больш за ўсё: ЗША – 476, Нямеччына – 416, Ізраіль – 294, Канада – 97, Расія – 651, Украіна – 134).

### Замежныя госці

За замежніка, які прыехаў па гасцявой візе, нясе адказнасць грамадзянін, які яго запрасіў. Ён афармляе ў пашпартна-візавай службе па месцы жыхарства адпаведнае запрашэнне.

Замежнікі павінны ў трохдзённы тэрмін у гэтай службе зарэгістравацца. Тых, хто прыбывае па службовых справах, рэгіструе АПВС гораду. Максімальны тэрмін знаходжання грамадзян СНД у Мінску – 45 сутак. Адзін дзень знаходжання ў нашай краіне каштуе замежніку 20% нашага мінімальнага заробку. Толькі блізкія сваякі (бацькі, дзеці і г. д.) вызваляюцца ад платы, але не ад рэгістрацыі.

Тыя, хто прыехаў вучыцца ці працаваць, рэгіструюцца на тэрмін дзеяння візы ці навучання. Дарэчы, супрацоўнікі АПВС сочаць за тым, каб яны сапраўды вучыліся, а не займаліся несанкцыянаваным бізнесам.

Калі госць праігнараваў рэгістрацыю, яго не выпусцяць з краіны, пакуль ён не заплаціць за ўсе дні знаходжання ды штраф за адміністрацыйнае правапарушэнне – пражыванне без рэгістрацыі. Таму лепш адразу быць законапаслухмяным.

«З Масквы да нас прыязджаюць грамадзяне Турцыі, Кітаю, Нямеччыны, у якіх няма беларускай візы, а толькі расійская. Яны чамусьці думаюць, што Расія і Беларусь – гэта адна краіна, – распавёў інспектар АПВС Аляксандр Біруля. – Такая памылка абарочваецца для іх адміністрацыйным правапарушэннем».

### Выдвараюць з Беларусі не толькі шпіёнаў

Замежнікі ў Беларусь трапляюць рознымі шляхамі. Адных «гуртам» прывозяць дзялкі ад бізнесу па нелегальнай міграцыі, каб далей адправіць у Заходнюю Еўропу. Звычайна на мяжы з Польшчай ці Літвой іх падарожжа сканчаецца.

«Малдаване, таджыкі, азербайджанцы з выводкам дзяцей, якія прыязджаюць «у розніцу», ствараюць шмат праблем, – распавёў старшы інспектар АПВС Мікалай Сяленя. – Па-першае, яны не рэгіструюцца, і невядома, хто прыехаў і навошта. Па-другое, жанчыны і дзеці жабруюць. Мужчыны звычайна заняты ў незаконным бізнесе. Мы іх затрымліваем, складаем пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні і выдвараем з краіны. Афіцыйна гэтыя людзі пазбаўлены права наведваць Беларусь на працягу пяці гадоў. Але нярэдка праз нейкі час гэтыя ж «арцелі» зноў займаюцца на нашых вуліцах сваім «бізнесам» – жабрацтвам. Паўторнае выдварэнне адбываецца пад канвоем».

Прадпрымальныя грамадзяне з СНД пасля першага выдварэння мяняюць на радзіме пашпарт з штампам аб забароне наведваць нашую краіну на новы дакумент. І зноў прыязджаюць у Мінск.

### З жыцця

Пад канец мінулага году органы ўнутраных спраў правodзілі аперацыі «Нелегал» і «Прыватная кватэра». Мы прайшлі больш за дзесятак «спакойных» кватэр. Нарэшце надта агрэсіўная жанчына адмаўляецца адчыніць дзверы. Крычыць: «Так, здаю пакой. Я ўсё жыццё працавала на гэту дзяржаву, а цяпер не хапае пенсіі на ежу і лекі. Не буду заключаць дамову і плаціць падаткі, не дачакаецеся. Ідзіце ў 43 кватэру, там «крутыя» здымаюць хату, няхай яны плацяць».

Міліцыянты ўрэшце ўгаварылі кабету адчыніць дзверы. Трое грамадзян Малдовы жывуць тут тыдзень без рэгістрацыі ў нашай краіне. Міліцыянты складаюць пратаколы на малдаван і гаспадыню.

Сорак трэцюю кватэру арандуюць менчукі, і ў міліцыянтаў няма да іх прэтэнзій. Вясной мінулага году выйшла тлумачэнне пракуратуры Мінску пра тое, что менчукоў, якія арандуюць кватэры ў сваім горадзе, не трэба прыцягваць да адміністрацыйнай адказнасці, бо няма суб'ектыўнага боку правапарушэння. Але гаспадары кватэр павінны плаціць падаткі з даходаў ад арэнды.

У «хрушчобе» адзін пакой займае пажылая жанчына з сынам-п'яніцам, другі – каўказскі гандляр. Ён зарэгістраваны ў іншым раёне Мінску, але жыве тут. Зноў працэдура складання пратаколу. У жанчыны пачынаюць дрыжаць губы, і яна просіць міліцыянтаў: «Не забірайце майго сыночка». Яе п'яны сын дрыхне на канапе, не можа расплюшчыць вочы, каб паказаць пашпарт, і ніхто не збіраецца яго «забіраць». Жанчына кажа, што родны сын адымае ў яе пенсію, забраў грошы і за арэнду пакоя – усё прапівае. А кватарант бароніць ад п'янага сына і нават дзеліцца ежай. І цяпер абяцае заплаціць штраф і за гаспадыню. Мы выходзім з кватэры, у якой змяшаліся пахі перагару, таннага тытуню і мандарынаў. Міліцыянты кажуць, што такія гісторыі ўжо не дзіва.

### Кошт правапарушэння

Як паведала начальніца пашпартна-візавай службы Цэнтральнага РУУС Мінску Вераніка Анішчук, на працягу 2001 году было складзена 440 пратаколаў на грамадзян з далёкага замежжа і 723 – з краін СНД, а 122 – на грамадзян Беларусі. Толькі за тыдзень правядзення аперацыі «Нелегал» і «Прыватная кватэра» дадалося 125 пратаколаў на грамадзян СНД, выяўлена 72 парушальнікі з краін далёкага замежжа. 14 пратаколаў складзена на грамадзян нашай краіны, якія здавалі ў арэнду жытло незарэгістраваным замежнікам. 11 грамадзян з краін СНД і 3 – з далёкага замежжа, якія апынуліся ў нашай краіне ўвогуле без усялякіх дакументаў, накіравалі ў спецпрыёмнік.

Існуюць дзве меры пакарання — папярэджанне і штраф. Замежніку, які не рэгіструецца ці не з'язджае з нашай краіны ў вызначаны тэрмін, пагражае штраф да 20 мінімальных заробкаў. Службовая асоба, якая парушае парадак рэгістрацыі, развітаецца з 15 мінімальнымі заробкамі. Калі гасцінны гаспадар праз 3 сутак не ўспомніць аб рэгістрацыі госця, то яму гэта абыдзецца ў штраф да 10 мінімальных заробкаў.

### Рэзюмэ

Гасцям варта памятаць, што яны ўсё ж у гасцях і таму павінны паважаць законы краіны, у якую прыехалі.

**Аксана ЯНКОЎСКАЯ**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1116 Нумар падпісаны ў друк 31/01/2002 (15:00) Наклад — 8.390